і катэгарычна прызнаецца сама сабе: «Адзеньце мяне так, як адзеты вы, ды навучыце мяне грамаце—я вас за пояс заткну». Ды што ты зробіш? Каму паскардзішся?

## II

Бурнае разводдзе людскога жыцця ўваходзіла ў новыя берагі. І немцы, і белапалякі, і бандыцтва засталося ззаду. Усталявалася совецкая ўлада. Добрыя чуткі сталі даходзіць да Арыніных вушэй. Совецкая ўлада заступаецца за беднату, за абяздоленую голь, за батрацтва. І жыццё, як заўважыла Арына, і людзі навокал яе — падцвярджалі гэтыя чуткі. На самім Гармізу адбіваліся подыхі новага жыцця. Адбіваліся яны і на Гармізавых дочках. І Гарміза і дочкі яго відавочна пахмурнелі. Абрэзалі Гармізаў хутар, а яго зямлёю надзялілі двух беднякоў.

— Гэта парадак на свеце?—злосна бубніў Гарміза.—Што я нажыў потам і крывавым мазалём, забіраюць ад мяне...

І скрыва паглядаў на Арынку, але ў вочы стаў лагоднейшы з ёю.

А праз колькі дзён нават і ў гутарку ўступіў з ёю.

— Служыш ты ўжо, Арынка, у нас пяты год і служыш сумленна. Трэба табе і пенсію падбавіць. Вось табе гасцінца дзесяць рублёў, а з гэтага часу буду плаціць табе на два рублі болей, а ўсяго буду плаціць у месяц чатыры рублі. Можа і цяжка часам было, то ты ўжо не крыўдуй, Арынка.

Здзівілася Арынка і слоў не знайшла, як адказаць яму.

Але хітры кулак падкупіў маладое дзявочае сэрца. Яна-ж цяпер адразу багатаю стала.

І пачала яна разважаць, чаму Гарміза так раптам падабрэў. Можа і сапраўды ён не такі ўжо ліхі чалавек, якім лічыла яна яго дагэтуль? Так і не дадумалася

Арынка, чым растлумачыць Гармізаву змену. Напэўна тут нешта ёсць, думала дзяўчына, і на думку ёй прыходзіла совецкая ўлада.

Але справа скора высветлілася.

Праз колькі дзён прышла на Гармізаў хутар маладая жанчына з партфелем спецыяльна для таго, каб пагаварыць з Арынаю. Арына дужа здзівілася, а Гарміза моцна спалохаўся. Яшчэ больш цікава было Арынцы: чаго спалохаўся яе гаспадар, чалавек з шырокаю спіною, з тоўстым, як у вала, каркам, гэтай маладой і зусім на выгляд нястрашнай жанчыны. Але Гарміза спалохаўся не дарма: маладая жанчына, Ульяна Кубеліч, была не хто іншая, як прадстаўнік рабачкома ад сельсовета.

Павёў Гарміза Ульяну ў святліцу.

— У вас ёсць работніца,—адразу і па-дзелавому прыступіла Ульяна Кубеліч да справы, узяўшы каранадаш і паперы з партфеля.

— Ёсць,—ціха адказаў Гарміза.

— А колькі яна ўжо працуе ў вас?

— Пяты год.

— А колькі ёй гадоў? — дапытвалася Кубеліч.

— Ды ўжо мусіць гадоў восемнаццаць ці каля гэтага,—нясмела адказаў Гарміза і, ажывіўшыся, казаў далей:—Я ўзяў яе зусім падлеткам. Сірата-ж яна. Проста з жаласці ўзяў. У мяне яна расла і гадавалася.

— Ну, але яна ў вас была і за работніцу?

— Вядома-ж рабіла работу, як робяць мае дзеці.

— Дык вы, што-ж, на правах дачкі трымалі яе?— пацікавілася Ульяна.

— Ды бадай што так.

Ульяна паглядзела на Гармізу. Тонкая ўсмешка прабегла па яе губах.

— Як зваць яе?

— Арына.

— Паклічце яе сюды, а самі выйдзіце,—тонам загаду сказала Ульяна.

«Ось ты чорт цябе вазьмі: прышла сабе ў хату і распараджаецца тут». Але аслухацца грознай жанчыны з партфелем Гарміза не пасмеў.

— Мяне вы клікалі?—запытала Арына, увайшоўшы ў святліцу і са здзіўленнем пазіраючы на Ульяну.

— Так, мілая.

— А хто-ж вы такая?

— А я з рабачкома, упаўнаважаная ад сельсовета. Абследую становішча батракоў, работніц і работнікаў у прыватных гаспадарках. Сядайце.

— Нічога, пастаю.

— Ці мала настаялася?—лагодна запытала Ульяна.

— Ну, што-ж? Такое наша шчасце.

— Ты мыляешся, Арына. Сядай, пагутарым...

Падрабязна распытвала Ульяна пра Арыніну службу, жыццё, заработак, пра выхадныя дні. Праўдзіва адказвала ёй Арына, не ўтаіўшы нават і тых дзесяці рублёў Гармізавай нагароды і тых двух рублёў надбаўкі, што абяцаў ёй Гарміза. Ульяна ўсё запісвала.

— Вось як гэта добра—умець запісаць,—сказала Арынка, пазіраючы, як піша Ульяна, і журботна паківала галавою.

— А ты непісьменная?

— А дзе-ж мне быць пісьменнай?

— А Гарміза-ж казаў, што ты амаль на правах яго дачкі жыла?

Арына паглядзела на Ульяну, і гэты погляд казаў: «Гаварыць можна, што хочаш».

Яны зразумелі адна адну і ўсміхнуліся.

## III

Ульянін візіт на Гармізаў хутар быў паваротным пунктам у Арыніным жыцці. Па-першае, Арына пераканалася, што совецкая ўлада сапраўды абараняе інтарэсы

беднаты і не дазваляе, каб яе крыўдзіла і эксплаатавала featuresрознае людское павуччо. А вынікам усяго гэтага была справядлівая ацэнка Арынчынай працы ў Гармізы і яе аплата: Гарміза павінен быў справіць Арыне абутак, поўны камплект адзежы, выплаціць ёй трыста рублёў ды даць яшчэ пры разліку па дзесяць рублёў за тры месяцы.

Абутая, адзетая, з грашыма ў кішэні, горда ішла Арынка з Гармізавага хутара, маладая, прыгожая, вясёлая, з высока паднятаю галавою. Не, савецкая ўлада не дасць ёй загінуць!

Апынулася Арынка ў горадзе. У іншы круг людзей, у новае кола інтарэсаў трапіла яна. Прынялі Арынку на фабрыку. Пачала яна хадзіць на сходы, даклады і спрэчкі слухаць, і стала святлець у яе вачах, і гэты свет зусім па-іншаму раскрываўся перад ёй. І старанная-ж была яна работніца. Калі ранейшая праца яе была паднявольная, то цяпер працавала яна свядома, руплівa, старанна, бо ведала, для чаго, навошта працуе.

Але самае важнае тут было вось што: пачала Арынка ліквідаваць сваю непісьменнасць. Наўперад ёй было страшнавата, калі іх, непісьменных людзей рознага полу і ўзросту, сабралі ў цэлую групу, калі прышоў настаўнік, малады студэнт, ды разлажыў лозунгі, плакаты і розныя кнігі. І дзіўна было тое, што настаўнік адразу пачаў з чытання цэлых сказаў. Пазірала Арынка на невядомыя ёй значкі, што азначалі цэлыя словы, і чытала разам з другімі, нічога не разумеючы. Запаміналі сказы, пазнавалі словы ў гэтых сказах, прыглядаліся да іх. Страшна было, цяжка і незразумела. Але ў далейшым гэтыя словы і гэтыя літары-значкі станавіліся больш знаёмымі. Памаленьку, патрошку раскрывалася таямніца чытання, граматы...

* * *

Прайшло тры месяцы часу.

Ехала Арынка ў падшэфны калгас. Дзве станцыі трэба было ехаць цягнікам. Апрача Арынкі былі тут яшчэ тры рабочыя і адна работніца з іх брыгады. А ў вагоне былі розныя людзі. Курылі здорава. Арынка-ж чытала ўсё, што пападалася ёй на вочы. І бачыць яна надпіс угары, над дзвярыма вагона: «Для некурашчых». Марудна, павольна прачытала яна надпіс, прачытала яшчэ раз, зірнула на курцоў. Праўду сказаць, курцы ўжо і не так замiналі ёй, і табачны дым не быў ёй прациўны. Але Арынка не магла стрымацца, каб не выкарыстаць сваёй пісьменнасці і права пратэставаць супроць курцоў у вагоне для некурашчых. Яна важна падышла да курцоў.

— Таварышы!—сказала яна.—Паглядзіце, што там напісана?—і паказала пальцам на надпіс. Курцы, хоць і ведалі, што ёсць тут гэты надпіс, але паднялі галовы, паглядзелі на яго і моўчкі спынілі курэнне.

Гэта была Арынчына радасць і перамога.

*1925 г.*



# МАКАРКА НАВАК

## I

Макарку Наваку мінула ўсяго толькі дванаццаць год, але шмат змен адбылося за гэты час. Макарка яшчэ помніць, як бацька яго мерна ступаў за плугам на сваім вузенькім шнуры, а маці адна хадзіла жаць на гэты шнур. За ёю ішоў і Макарка: не было з кім застацца яму дома. Шмат клопатаў было тады матцы з Макаркам: яна спяшаецца на поле, а Макарка падыйдзе і спыніцца. То ён згледзіць на дарозе цікавага жучка, то з травы ўзнімецца птушка, то праляціць прыгожы матылёк. Макарку хацелася на ўсё паглядзець і ўсё разгледзець, пра ўсё распытаць, каб адвесці кожнай з'яве належнае месца. Цяпер усё гэта здаецца яму далёкім і нават смешным, а тады справа прымала часам і нечаканы аба-

рот. Матка злавалася, крычала на Макарку, і Макарка справядліва адчуваў сябе пакрыўджаным няўвагаю маткі да таго, што так моцна цікавіла і займала яго дзіцячыя думкі.

Так было яшчэ гадоў восем таму назад. Цяпер, калі зірнуць на іхняе поле, дык яго і не пазнаць: папрападалі межы, а з імі і вузкія шнуры разам з адзінокімі постацямі аратых і жней. Макарка часта любаваўся полем у яго новым выглядзе: такое-ж яно прасторнае! А па полі паважна поўзаюць трактары, адрэзваючы за сабой цэлы гурт скібаў пахучай зямлі, напаўняючы цішыню ўзлескаў магутным гоманам. А на трактарах сядзяць свае-ж хлопцы і спрытна водзяць паслушныя ім машыны. Макарка не раз пазіраў на трактарыстаў, на іх зухаўскую пасадку, на ссунутыя на патыліцу шапкі, на дужыя загарэлыя рукі і зайздросціў ім ад усяго сэрца, і ў той-жа час ён ганарыўся імі. І што асабліва здзіўляла тут Макарку, дык гэта тое, што на адным трактары сядзела Марына Кунашка. Яе чырвоная хустачка, завязаная паўзверх русявых кудзер, здалёку кідалася ў вочы і нейкім асаблівым чынам вылучала яе постаць на гэтай шырокай зямлі. Яна, напэўна, спявала песню, бо ў яе быў добры голас, і яна любіла спяваць. Пазіраючы на гэтых жалезных коней і на трактарыстаў, Макарка цвёрда пастанавіў—навучыцца кіраваць трактарам, калі ён вырасце.

Змянілася не толькі поле—змены адбыліся і ў іх вёсцы. Павырасталі новыя будынкі: клуб, школа, больніца, дзіцячыя яслі і сады, а каля гэтых будынкаў раскінуліся прыгожыя дворыкі і пляцоўкі з чысценькімі роўнымі дарожкамі, з клумбамі, дзе раслі самыя рознастайныя кветкі. Тут можна было і пагуляць, і пасядзець на лаўках-канапках пад ценем маладых каштанаў. І ўсё гэта прыемна кідалася ў вочы і вабіла да сябе, выклікала пачуццё замілавання да гэтай новай зямлі, да людзей, што абнаўлялі яе і будавалі на ёй новы чалавечы ўту-

лак. А што асабліва падабалася Макарку, дык гэта шасейная дарога, збудаваная таксама за Макараву памяць. Яна спараджала ў яго сэрцы нейкае новае пачуццё — пачуццё далечыні і прастору. Як слаўна было прайсціся па гэтай дарозе! Колькі паваротак рабіла яна, пралёгшы між узгоркаў і сядзіб, перасекшы лясы і балоты! Часамі на цэлыя кілометры рассцілалася яна роўным, нібы выбеленым на сонцы, ільняным палатном.

Як чаруюць і вабяць да сябе акуратненька і клапатліва пастаўленыя праз пэўную адлегласць лаўкі каля дарогі! Утульна стаяць яны на маленькіх расчышчаных пляцоўках у цяні дрэўцаў. Вось так, здаецца, і гавораць падарожніку: «Прысядзь, калі ласка! Адпачні ды паразважай, браток!» А колькі прыгожых кветнічкоў каля дарогі! Ды колькі на іх усялякіх кветак!.. А гэтыя белыя слупкі з прыбітымі на іх дошчачкамі, на якіх паказаны розныя дарожныя знакі і надпісы—назвы дарог, сядзіб, вёсак, гарадоў. А як прыгожа выведзены на адкосах дарогі дзяржаўныя гербы, розныя лозунгі, кожная літара якіх зложана з маленькіх каменьчыкаў, кавалачкаў цэглы, пафарбаваных у розныя колеры. А колькі руху па гэтай дарозе! Колькі машын прабягае па ёй! Макарка любіў пазіраць, як імчацца машыны, і часамі, так сабе, жартам, падымаў руку, каб падвезлі яго на машыне... Дык як-жа не любіць такую слаўную дарогу?!

Многа думак спараджае яна ў Макаркавай галаве. І хочацца яму прайсці яе з канца ў канец. Праўда, адзін яе канец Макарку амаль увесь вядомы: гэты канец упіраецца ў прыгранічча (а Макарка жыў непадалёку ад граніцы). Калі ўзыйсці вунь на той узгорак, што лявей вёскі, дык адтуль відаць краіна, над якою распасцірае крыллі белы панскі арол.

Калі Макарку здаралася вольным часам праходзіць непадалёку ад той горкі, адкуль відаць другая зямля, то ён не мінаў яе амаль ніколі. Узыйдзе на самую верхавіну і запыніцца: два розныя светы ляжаць перад яго

вачыма. Адзін свет так вабіць і так радуе яго сваімі шырокімі prасторамі, дзе ўсе дарогі гасцінна расчынены перад ім, і ўсе яны даступны яму. Зусім іншы настрой і іншыя думкі выклікае зямля па той бок граніцы. Ён шмат чаго чуў аб тым, што робіцца там, на той зямлі. Яна часта прыцягвала да сябе яго вочы і думкі. Ён ведаў, што там распараджаецца зямлёй не народ, а паны. Многа там панскіх двароў, шляхецкіх фальваркаў, пазабіраўшых самыя ўраджайныя кавалкі. Макарка ведае, што паны стварылі так званыя «ўсходнія крэсы» і засялілі іх польскімі кулакамі-асаднікамі, а народ, які жыў тут спрадвеку, сагналі з яго зямель. І шмат беднага сялянскага люду пайшло батрачыць у панскія двары і фальваркі або бадзяцца па гарадах, шукаючы сабе работы і не знаходзячы яе. А над ім, галодным і голым, апякуюцца паны і ксяндзы, гэтыя прабеглыя выжыгі ў чорных сутанах. На пакуце народа будуюць яны сабе рай на зямлі, а яму абяцаюць рай на тым свеце. Нават школ сваіх не маюць там людзі. Дзесяткі тысяч беднай дзятвы астаюцца непісьменнымі, бо няма ім дзе вучыцца і няма ў што адзецца і абуцца, каб наведваць хоць тыя шляхецкія школкі, што пабудавалі паны і ксяндзы. Такая несправядлівасць моцна абурае Макарку. У іх піянерскім атрадзе не раз вяліся гутаркі аб тым, як лютуе там панская ўлада, як цяжка жыць беднаму працоўнаму народу пад панскім гнётам. Але Макарка, як і ўсе піонеры, ведае, што не век будуць панаваць там паны, бо народ зносіць крыўды і сваё бяспраўе да пары, да часу, бо ён употайку збірае сілу, каб абрушыць яе на сваіх заклятых ворагаў—прыблудаў, бо ў сэрцы народа жывуць светлыя вобразы вялікіх прыяцеляў прыгнечанага люду, яго правадыроў і настаўнікаў—Леніна і Сталіна. Панскае панаванне кончыцца. Ачысціцца зямля ад трутняў-дармаедаў. Макарка ў гэтым не сумняваецца. Аб гэтым сведчыць і яго верш, дзе ёсць такая страфа:

«Пан лютуе, здзекі чыніць,
Ды ён мыліцца:
Стукнуць пана малатком
Па патыліцы».

II

Жыццё ў прыгранiччы мае свае асаблівасці. Яно накладае свой адбітак і на людзей, што жывуць у прыгранiччы, вучыць іх дзяржаць вуха востра і зорка глядзець навокал. Кожнаму прыгранічнаму чалавеку вядома, з якою нянавісцю паглядае сюды пан і яго слугі і на што могуць пайсці яны, каб толькі нашкодзіць і прычыніць нам ліха. Макарка ведае, што для паноў суседства з намі—тое самае, што для савы-пугача і іншых начніц сонца яснага дня: яно слепіць ім вочы. Вось чаму кожны раз, калі Макарка стаяў на той горцы і думаў пра паноў, твар яго рабіўся суровым і бязлітасным, і ён падымаў руку і трос на паноў кулаком.

Залатая восень тысячамі дарог ступала, хоць яшчэ і нясмела, на зямлю і афарбоўвала яе далі і прасторы неба ў лагодныя тоны нейкага ціхага раздум'я. Тонкая, сінюватая смуга, поўная цеплыні і ласкі, песціла далёкія лясы і купчастыя бярозы, што адзінокімі постацямі абступалі старую і цяпер ужо заглухлую дарогу, бегучы разам з ёю кудысьці далёка на захад і на ўсход. Праз нявялікія адлегласці мяняліся далі, то звужваліся, сціснутыя лясамі, то зноў расступаліся, адкрываючы цэлы рад новых малюнкаў. Апошнія бабкі жыта і аўса ўжо звезены з калгасных прасторных палёў. Зноў загулі трактары, падгатаўляючы зямлю да прыёму новага насення, а месцамі ўжо вялася і самая сяўба.

Макарка Навак і яго прыяцель Лёнік Абрушкевіч, абодва ў чырвоных гальштуках, варочаліся з школы дамоў. Сёння першы дзень школьных заняткаў. Уражанні першага школьнага дня, здавалася, засланілі ўсе іншыя

інтарэсы і падымалі ў хлопцаў настрой. Ужо адно ўсведамленне таго, што яны — вучні пятага класа, многа значыць. Яны адчувалі сябе амаль дарослымі людзьмі, бо ўжо з пятага класа пачынаецца сур'ёзная навука. Рагатка-ж, якая ляжала на ўсякі выпадак у кішэні Лёнькі, зусім траціла сваё значэнне. Яму нават няёмка было цяпер даставаць яе з кішэні. Ён не забываў пра яе, але загаварыць аб ёй уголас не адважваўся. Вось хіба толькі калі пакажацца які-небудзь звер, дык яе можна будзе пусціць у ход. Хлопцы ішлі вясёлыя, і настрой у іх быў узняты. Яны прайшлі палавіну дарогі. Уся-ж дарога да школы не мела і трох кілометраў. Спускаючыся з горкі, яны згледзелі трактар. З шумам і грукам поўз трактар у бок дарогі, як-бы намерваючыся перарэзаць яе. Трактарам кіравала Марына Кунашка. Адразу можна было пазнаць яе па чырвонай хустачцы, з-пад якой выбіваліся непакорныя русыя кудзеры.

— З школы ідзеце, хлопчыкі? — весела запытала Марына, спрытна заварочваючы трактар, каб пачаць рэзаць новыя лусты пахучай зямлі.

Макарка і Лёнік прыпыніліся.

— Ці цяжка кіраваць трактарам, Марына?

Як відаць, пытанне гэтае вельмі цікавіла Макарку.

— Як навучышся, дык яно і не цяжка, — адказала вясёлая трактарыстка.

Трактар і Марынчына чырвоная хустачка паволі сталі аддаляцца ад дарогі, закрываючыся клубам лёгкага пылу.

Макарка і Лёнік пастаялі яшчэ трохі, пакуль адышоўся трактар і прыглух яго шум.

— Ну, займуся я трактарам,—рашуча сказаў Макарка. — Зраблю мадэль, вывучу матор і ўсе часці і навучуся кіраваць трактарам, вось пабачыш.

— Давай зоймемся разам!—падхапіў Лёнік думку свайго прыяцеля.

— Давай! — згадзіўся Макарка.

Яны рушылі далей і з жарам вялі гутарку, як будуць рабіць мадэль трактара. Яны і не заўважылі, як амаль усутыч сышліся з незнаёмым чалавекам. Ён ішоў палявою дарожкай і якраз выходзіў на вялікую дарогу, якою ішлі Макарка і Лёнька. Нічога асаблівага не было ні ў постаці гэтага чалавека, ні ў яго абліччы, ні ў адзенні,—звычайны чалавек, сярэдняга росту, чарнявы. На выгляд яму было не болей як трыццаць гадоў.

— Куды гэта ідзеце вы , хлопчыкі?—запытаў незнаёмы чалавек. Запытаў ён прыязна і бестурботна. Так мог гаварыць чалавек, у якога на сэрцы поўны спакой і ніякіх ліхіх думак у галаве.

Макарка і Лёнік прыпыніліся.

— А мы сабе так ідзем—гуляем,—адказаў Макарка, а Лёнік дадаў у тон свайму сябру:

— Збіраем калекцыі.

— О, якія вы малайцы!—пахваліў іх незнаёмы чалавек і запытаўся ізноў: — То, мусіць, вы—школьнікі?

Хлопцы адказалі не адразу.

— А навошта вам гэта ведаць?—запытаў Макарка.

Незнаёмы чалавек дабрадушна засмяяўся.

— Малайцы! Слаўныя вы рэбяты! Не ўсё трэба гаварыць кожнаму, хто папытаецца ў вас, асабліва, калі вы яго не ведаеце. Вось і я: а можа я—ліхі чалавек, шпіён які-небудзь?.. Вы-ж не ведаеце мяне?— І ён уважліва паглядзеў на Макарку і Лёніка, прыветна кіўнуў ім галавою і, перасекшы вялікую дарогу, пайшоў далей палявою дарожкай. Здзіўленыя спатканнем і гутаркаю з незнаёмым чалавекам, Макарка і Лёнік недаўменна і моўчкі зірнулі адзін аднаму ў вочы. Незнаёмы-ж чалавек, прайшоўшы крокаў дваццаць, аглянуўся і тонам нібы ўжо знаёмага з імі чалавека запытаў:

— А што—пападу я гэтай дарогай у Падбор'е?

— Пападзеце,—адказалі хлопцы.

Незнаёмы чалавек павольна пайшоў далей.

Макарка раптам схапіў Лёніка за руку.

— Пойдзем сюды!—сказаў ён і пацягнуў яго ў бок з дарогі, за яе выступ, і спыніўся.

— Як ты думаеш, што гэта за чалавек?

У голасе Макаркі чулася нейкая трывога. Яна перадалася і Лёніку. Лёнік недаўменна ўскінуў плячыма і ціха сказаў:

— Ведаеш, Макарка, што: давай мы схаваемся так, каб нас не відаць было, а мы каб яго бачылі—куды ён пойдзе?

Прыгнуўшыся, яны борздзенька прайшлі выемкаю дарогі і ўзышлі на яе вал, дзе былі кусцікі, і прылеглі за імі. Макаркі і Лёніка не відаць было, дарожка-ж на Падбор'е і чалавек на гэтай дарожцы ім добра былі відны. Яны пільна сачылі за незнаёмым чалавекам, ахопленыя пачуццём нейкага непакою.

— Калі зверне ў кусты, дык гэта — адтуль, — ціхенька сказаў Лёнік і кіўнуў на граніцу. Макарка маўчаў, баючыся хоць на момант спусціць з вачэй незнаёмага чалавека. У меру таго, як чалавек гэты падыходзіў да хмызняку, узрастала хваляванне Макаркі і Лёніка. Вось ён параўняўся з зараснікам. Яго постаць нібы на момант спынілася, а потым раптам знікла. Засталася адна дарога і зялёны астравок зарасніку. Але чалавек павінен зараз паказацца ізноў: край зарасніку, праз які праходзіць дарога, не вялікі—мінута хады, не болей. Ды чалавек не паказваўся.

— Пашыўся ў кусты,—прашаптаў устрывожаны Макарка.

— А пытаў дарогу на Падбор'е!—таксама ціха азваўся Лёнік.

Яшчэ некалькі хвілін пазіралі яны на дарогу,—чалавека не было.

— Лёнік, гэта шпіён!—сказаў Макарка, і ўпэўненасць чулася ў яго голасе.

— Шпіён! — пацвердзіў Лёнік, і заклапочанасць лягла на яго твар.

— Што-ж нам рабіць?—запытаў ён. Схаваецца гад, уцячэ!

У Макаркавай галаве раптам узнікла думка.

— Вось што, Лёнік: сядзі тут, каравуль, а я—на заставу!

— Бягай, бягай—напрасткі! А я буду глядзець... А то можа я пабягу?

— Не, Лёнік, ты аставайся тут і глядзі, ці не пакажацца ён і куды ён пойдзе...

III

Лёнік застаўся адзін на сваёй варце. Ён не спускаў з вачэй таго месца, дзе знік незнаёмы чалавек, глядзеў на дарогу за хмызняком і на ўсе выхады з хмызняку. Ён толькі зрэдку пераводзіў вочы ў той бок, куды пабег Макарка. А Макарка спяшаўся хутчэй дабегчы да заставы. Ён выбіраў такія мясціны, каб не кідацца нікому ў вочы, асабліва каб не згледзеў яго той страшны і ліхі чалавек і каб не разгадаў яго намер. Некалькі раз мільгнула яго шапка ў Лёнькіных вачах, а потым Макарка зусім схаваўся за ўзгоркамі, што ішлі ў бок заставы.

Лёніку спачатку было трохі страшна. А што, калі гэты ліхі чалавек здагадаецца і паверне назад? А можа ён пяройме дзе-небудзь Макарку?.. А можа гэта і не ліхі чалавек, і яны дарэмна падымаюць трывогу, а на заставе толькі пасмяюцца з іх. Але Лёнька пільна стаяў на варце і зорка пазіраў, каб не прапусціць таго чалавека.

Калі большая частка дарогі заставалася ззаду і перад вачыма Макаркі паказалася застава, тады толькі ён перавёў дух і ўздыхнуў вальней. Ад бегу і шпаркай хады шчокі яго разгарэліся, як мак, і сэрца стукала моцна і часта. Цяпер ён ішоў крыху спакайней і думаў пра тую гутарку, якая павінна адбыцца ў яго на заставе, аб тым няпэўным чалавеку, якога трэба было праве-

рыць. Ён быў перакананы, што паступае правільна, і гэта прыдавала яму смеласці. Каля варот заставы стаяў з вінтоўкаю пагранічнік—чырвонаармеец. Ён здалёк зглядзеў Макарку і павярнуўся ў яго бок. Усё Макаркава аблічча казала за тое, што ён ідзе з нейкімі навінамі. Кроках у двух ад вартавога Макарка спыніўся. Чырвонаармеец пазіраў на Макарку, а Макарка глянуў у вочы чывонаармейцу.

— Што скажаш, дружок?—запытаў чырвонаармеец.

— Мне на заставу, да начальніка.

— Што хочаш сказаць яму?

— Мы бачылі нейкага чалавека... Відаць, ён перайшоў граніцу.

Чырвонаармеец болей не распытваў Макарку і толькі сказаў:

— Пастой трохі тут,—і хутка падаўся да варот у невялікую прыбудоўку. Праз колькі хвілін чырвонаармеец вярнуўся, а яшчэ праз хвіліну ў дзвярах прыбудоўкі паказаўся высокі і статны лейтэнант. Ён быстра акінуў вачыма Макарку.

— Ну, расказвай, брат, што там такое,—звярнуўся ён да Макаркі.

Макарка тарапліва, часамі глытаючы словы, расказваў пра спатканне з незнаёмым чалавекам і пра тую гутарку, якая паказалася і Макарку і Лёніку падазронаю. А самае важнае ў паводзінах незнаёмага чалавека было тое, што ён распытваў пра Падбор'е, месца, дзе знаходзіцца застава, тым-жа часам ён звярнуў з дарогі ў Падбор'е і знік у зарасніку. Камандзір слухаў уважна. Потым паставіў цэлы рад кароткіх пытанняў: як выглядае незнаёмы чалавек, малады ён ці стары, нізкі ці высокі і як ён адзеты. Макарка даваў дакладныя адказы.

— Добра!—сказаў начальнік.—Пастой тут!

Лейтэнант быстра павярнуўся, аддаў нейкі загад. Зараз-жа з двара заставы пачулася тухканне конскіх

капытоў. Да варот пад'язджалі два конных чырвонаармейцы з аседланым канём для камандзіра. Адзін чырвонаармеец сядзеў у сядле з сабакам Гунам, падобным да воўка. Вартавы расчыніў вароты.

— Ну, давай!—сказаў камандзір і спрытна ўскочыў на каня.

— Давай сюды, браток!—камандзір падаў Макарку руку.

Вартавы чырвонаармеец лёгка падхапіў Макарку, і Макарка не апомніўся, як ён апынуўся ў сядле разам з камандзірам.

— Трымайся за мяне і паказвай дарогу.

Макарка горда сядзеў у сядле ўперадзе камандзіра.

## IV.

Лёнік пачынаў ужо непакоіцца, ці не здарылася чаго з Макаркам. Як ні глядзеў ён на зараснік, нікога там не было. Цяпер ён часта пераводзіў вочы ў той бок, адкуль павінен быў паказацца Макарка. І раптам зусім з другога боку і зусім нечакана згледзеў ён трох пагранічнікаў вярхом на конях. Радаснае здзіўленне Лёніка яшчэ болей узрасло, калі ён убачыў Макарку на адным сядле з передавым коннікам. На тым месцы, дзе з імі сустрэўся незнаёмы чалавек, усе тры коннікі спыніліся і пазлазілі з коней. Лёнік ужо быў памкнуўся бегчы да іх, ды спыніўся спалоханы: да яго бег Гун. Але Гун лагодна абнюхаў Лёніка і глянуў яму ў вочы, нібы хацеў сказаць: «Ведаю: ты—прыяцель Макаркаў». А Макарка гукнуў:

— Не бойся, Лёнік: ён не ўкусіць. Бягай сюды!

Лёнік падбег да пагранічнікаў і па-піонерску прывітаўся.

— Ну, што бачыў на сваёй варце?—запытаў лейтэнант.

— Глядзеў я ўвесь час, але ён болей не паказваўся. Знік.

— А дзе іменна тое месца, дзе вы з ім гаварылі?— запытаўся лейтэнант у Макаркі і Лёніка.

Яны дакладна паказалі. Чырвонаармеец узяў сабаку на павадок і паказаў след прайшоўшага з гадзіну таму чалавека. Гун абнюхаў след і раптам змяніўся ў сваіх паводзінах: прыўзняў вушы, падняў галаву, панюхаў навокал паветра і падаўся ў бок зарасніку, цягнучы за сабою чырвонаармейца.

Лейтэнант загадаў аднаму пагранічніку ехаць конна побач пагранічча і ў пэўным месцы ўзяць улева і ехаць на такое-то месца. Пагранічнік паўтарыў загад і са словамі «ёсць, таварыш камандзір» паскакаў па ўказаным кірунку. Лейтэнант і другі пагранічнік рушылі дарожкай у бок зарасніку. Макарка і Лёнік ішлі за імі: яны папрасілі дазволу дайсці з пагранічнікамі хоць да таго месца, дзе знік незнаёмы чалавек. Да зарасніку было не болей, як поўкілометра. Макарка і Лёнік падыходзілі да яго ў вялікім хваляванні: у гэтым зарасніку, на іх думку, павінна разгадацца загадка аб незнаёмым чалавеку. Сабака ўвесь час ішоў па слядах. Вось і заразнік. Сабака з дарогі не зварочваў, і толькі ў тым месцы, дзе дарога пакідала заразнік і падымалася на горку, Гун павярнуў направа і павёў ускрайкам зарасніку, а потым звярнуў у заразнік. Чым далей, тым гусцей станавіўся заразнік, прабірацца з коньмі тут было цяжка.

Лейтэнант спыніўся і сказаў:

— Коней пакінуць тут.

— Мы пабудзем каля іх!—азваўся з кустоў Макарка. Яны зводдаль ішлі за пагранічнікамі. Ім так хацелася быць з імі і хоць чым-небудзь дапамагчы.

— А вы ўсё тут!—сказаў лейтэнант.—Далей ні на крок! Вярніцеся назад, а калі хочаце, дык чакайце нас там у зарасніку, каля дарогі.

Макарка і Лёнік спыніліся каля дарожкі ў зарасніку і чакалі. Зрэдку то адзін, то другі адыходзіліся

трохі воддаль, дзе было зусім ціха і нішто не замінала ім слухаць. Навокал стаяла маўклівая цішыня.

Макарка раптам увесь аж падскочыў.

— Глядзі, Лёнік: вунь, бачыш, нейкія людзі! Макарка паказаў рукою на густы лес. І сапраўды, з правага крыла лесу, што абступаў поле іх калгаса, вырысаваліся на момант малюсенькія чалавечыя фігуркі, але зараз-жа зніклі. Некалькі хвілін хлопцы стаялі моўчкі і прагна ўзіраліся ў тое месца, дзе паказаліся людзі. Лёнік бачыў іх толькі на адзін міг.

— Колькі іх было?—запытаў ён.

— Ці то два, ці тры, — адказаў Макарка.

Хваляванне іх узрастала, але постаці людзей не паказваліся. Аж непадалёку адтуль праімчаўся чалавек на кані.

— Гэта яны, нашы!—крыкнуў Лёнік.

Яны добра бачылі верхавога, але і ён схаваўся. Праз некалькі хвілін на грэбні ўзгорка ў некаторай адлегласці ад лесу паказаліся тры чалавекі. Цяпер яны выдаваліся шмат большымі. Яшчэ праз момант выплыла і постаць чалавека на кані. Ён далучыўся да групы з трох чалавек і ехаў ступою крыху збоку ад іх. Так, гэта яны, пагранічнікі. Але Лёнік пасеяў вялікае сумненне.

— Макарка! — сказаў ён. — Гэта, мусіць, другія пагранічнікі.

— Чаму ты так думаеш?—запытаў Макарка.

— А чаму сабакі не відаць?

Макарка сумеўся. І праўда—сабакі не было.

Уся група, трое пешых і адзін конны, паволі набліжаліся. Макарка і Лёнік чакалі з заміраннем сэрца. Цяпер усё было відаць добра: конны пагранічнік, чырвонаармеец, у руках з вінтоўкаю напагатове, а перад ім у двух кроках, унурыўшыся, ішоў той самы незнаёмы чалавек. Лейтэнант замыкаў групу. Макарка і Лёнік хутка накіраваліся да пагранічнікаў. Камандзір даў па-

гранічнікам нейкі загад, а сам пайшоў насустрач хлопцам.

— Ну, рэбяткі, — спытаўся ён,—той гэта ці не?

— Той, той! — разам падцвердзілі Макарка і Лёнік.

— Дзякуй вам, рэбяткі: гуся злавілі мы важнецкага.

— Дзядзя! — звярнуўся да яго Лёнік,—а дзе-ж сабака?

Лейтэнант крыху нахмурыўся.

— Загінуў бедачына,—з ноткаю жалю сказаў ён.— Застрэліў яго негадзяй гэты. Думаў выратаваць сваю прадажную скуру, ды не прышлося.

Лейтэнант запытаў прозвішча Макаркі і Лёніка, дзе яны жывуць і дзе вучацца, і ўсё гэта запісаў у кніжачку, яшчэ раз падзякаваў іх, як гарачых патрыётаў сваёй зямлі, і развітаўся з імі.

* * *

Праз дзён дзесяць урачысты сход адбываўся ў школе. На відным месцы за сталом прэзідыума сядзелі Макарка Навак і Лёнік Атрушкевіч. На трыбуне—начальнік пагранічнай заставы. У простых і жывых словах гаварыў ён сходу аб нашым светлым жыцці, здабытым упартаю працаю і сумеснаю барацьбою ўсіх народаў вялікай Совецкай зямлі пад сцягам гераічнай партыі Леніна—Сталіна. Ён расказаў, з якою нянавісцю глядзяць фашысцкія разбойнікі на нашу краіну: росквіт совецкай зямлі і добрабыт яе народаў—смяртэльная небяспека для фашызма, асуджанага на пагібель. Яго агентура пускаецца на ўсё, каб шкодзіць нам і падрываць нашу моц. Але дарэмны яго патугі. З'еднаны магутны совецкі народ—вялікі патрыёт сваёй зямлі, і ён не дапусціць фашысцкую поскудзь паганіць яе.

Цэлы рад прыкладаў прывёў прамоўца, як пільна і свята ахоўвае свае рубяжы совецкі народ і дапамагае пагранічнікам вынішчыць фашысцкую нечысць.

— Я рад,—сказаў прамоўца,—папоўніць гэтыя прыклады яшчэ адным новым прыкладам.

Начальнік заставы паказаў на Макарку і Лёніка. Многалюдны сход горача і доўга вітаў піянераў-герояў воплескамі. Прамоўца расказаў сходу гісторыю, як быў злоўлены незнаёмы чалавек. Ён аказаўся вельмі буйным шпіёнам.

Ад імя пагранічнікаў Макарку і Лёніку была выказана падзяка і прыпаднесены каштоўныя падарункі.

Макарка і Лёнік адчувалі сябе шчаслівымі і гордымі, бо яны чэсна выпаўнілі перад Радзімаю свой піонерскі абавязак.

*1938 г.*



## СУСТРЭЧА З ВОРАГАМ

Разгалістыя сосны, быццам зялёныя шатры, раскінуліся на пясчаным узгорку ўскрай лесу. Шмат сцяжынак і глухіх дарог разыходзіцца адсюль у лес у розных кірунках. Куды яны вядуць? Алёша Найдзёнак—а яму ўжо трынаццаць год—не ведае: вельмі-ж ужо вялікі гэты лес, непраходны. Па краі ўзгорка ўецца шырокая дарога. Гэты ўзгорак—улюбёнае месца Алёшы. Часта бываў ён тут. Рознастайная музыка, якая звініць на паветраных струнах ранішняй цішыні: далёкія гудкі паравозаў, спеў лясных птушак, суровы рокат самалётаў з суседняга аэрадрому. Добра было тут. А калі яшчэ хлопцы прыходзілі... Так, гэты ўзгорак на ўсё жыццё застанецца ў памяці Алёшы.

Але цяпер гэта ўсё ў мінулым. Чорнай навальнічнаю хмарай насоўвалася з захаду вайна. Бляскі ад палаючых гарадоў і мястэчак асвятлялі яе шлях. Смерць,

разбурэнне, разбой ішлі разам з нямецкімі зграямі. На святую барацьбу за свабоду, за чэсць роднай зямлі ўзняўся вялікі совецкі народ. Змянілася жыццё ў вёсцы. Маладыя калгаснікі пайшлі ў Чырвоную Армію са зброяй у руках абараняць сваю радзіму. Старыя і пажылыя людзі раіліся, што рабіць, складалі свае планы. Многія пайшлі партызаніць, узброіўшыся тым, што трапіла пад рукі. У глухія лясныя нетры выганялі калгаснікі жывёлу, каб нічога не засталося ворагу...

Алёша прагна прыслухоўваўся да ўсяго. Расказы аб зверствах немцаў, якія не маюць літасці ні да дзяцей, ні да старых і жанчын, запальвалі агонь нянавісці ў яго маладым сэрцы. Алёша не быў адзінокі. З ім разам заўсёды былі Лёня Навасад, Міколка Шупік, Мікіта Карнавух і іншыя хлопцы.

Пільна ахоўвалі яны родны калгас. Нішто не абмінала іх увагі. Гэта яны заўважылі, што мост цераз ручай паламаны, і, калі праходзіла цяжка нагружаная ваенная машына, спынілі яе і паказалі, як аб'ехаць. Гэта яны—Лёня, Міколка, Мікітка, Сенька Жалабок ашукалі нямецкага дыверсанта і накіравалі яго ў рукі вясковай заставы.

Ваенная навальніца насоўвалася. У ясны ліпеньскі вечар наляцелі нямецкія разбойнікі, скінулі бомбы, падпалілі хату рыбака Максіма, забілі яго дачку і спалілі два хлявы.

... Ціха апусцілася на зямлю празрыстая летняя ноч. Трывожна брахалі і неяк жаласна і жудасна вылі сабакі. Гэтае ночы ў вёсцы амаль ніхто не спаў. Алёша Найдзёнак расказваў сябрам пра нямецкія танкі. Яны могуць з'явіцца і тут. Але танкі не павінны захапіць знянацку Алёшу.

І ён расказаў сябрам аб сваіх планах.

Раніцой хлопцы прышлі на ўзгорак. Яны неслі з сабой пустыя бутэлькі, шматкі пакулля, бляшанку з бензінам. Усё было прадугледжана і зроблена, як нале-

жыць: пастаўлен вартавы пост, выслана разведка. Алёша кіраваў вырабам супроцьтанкавых снарадаў. Разам абмяркоўвалі кожную дэталь: дзе і як прымацаваць пакулле, якое ў рашучы момант трэба змачыць бензінам і запаліць; колькі трэба прывязаць яго ды так прывязаць, каб дно бутэлькі было адкрытым, інакш яна можа пабіцца, стукнуўшыся аб варожы танк. Адну бутэльку з-пад шампанскага забракавалі: налітая бензінам, яна была занадта цяжкая. Затое на ёй практыкаваліся, па чарзе кідаючы яе ў куст, які служыў хлопцам за нямецкі танк.

— Глядзіце-ж, хлопцы, як толькі будзе праходзіць танк, кідайце трапна, так, каб пацэліць у яго верхнюю часць,—узрушана гаварыў Алёша.

— І запаліць пакулле, кідаючы,—дадаў Мікітка.

— Гэта ўжо абавязкова. І запалкі каб у кожнага былі. Памятайце:

Будзе і для немца
Пуга і ярэмца.
У край чужы без спроса
Не пакажа носа...

І вось яны гатовы. Але мінуў дзень, а нямецкія танкі не паказваліся. Хлопцы былі нават расчараваны гэтым: ім не цярпелася, яны хацелі папрабаваць сваю сілу і эфект сваіх снарадаў на варожых танках.

— Як вы думаеце, хлопцы, ці не папрабаваць нам, як будуць дзейнічаць нашы бутэлькі?—запытаўся Алёша.

Вядома, папрабаваць! Усе прышлі да вываду, што яны нават павінны зрабіць гэта.

Узялі адну бутэльку, захапілі бензін і накіраваліся ў лес: там, на пагорку ля дарогі, ляжала куча каменняў. Гэта і была мішэнь. Не прайшлі яны і палавіны дарогі, як раптам зоркі Мікітка спыніў сяброў.

— Глядзіце, што гэта такое?

У прасвеце паміж дрэў яны ўбачылі нейкую дзіўную рэч, прыкрытую мохам і зялёным галлём.

— Як быццам шалаш,—сказаў Лёня.

Ім раптам стала страшна. Хто-ж мог паставіць яго тут? Ды і ці шалаш гэта!

— Гусеніцы! Гэта танк!—усхвалявана зашаптаў Мікітка.

— Кладзіся!—скамандаваў Алёша.

Так, гэта сапраўды быў танк. Каля яго нехта корпаўся. З лесу, азіраючыся па баках, вышаў танкіст. Ён быў зусім непадобны да нашага танкіста. Хлопцы ляжалі, стаіўшы дух. Такога выпадку яны ніяк не маглі прадбачыць.

— Паўзіце назад,—паціху сказаў Алёша.

Счакаўшы некалькі хвілін, Лёня і Міколка кінуліся бегчы да вёскі. Яны папярэдзілі старшыню, а самі, захапіўшы бутэлькі з бензінам, паімчаліся назад, стараючыся не разліць іх па дарозе.

Хаваючыся ў верасе і за разгалістымі дрэвамі, падпаўзлі Алёша, Лёня, Міколка і Мікітка да варожага танка. Ён стаяў нерухома. Хлопцам страшна было спачатку, а пасля ўсякі страх мінуў. Яны падпаўзалі ўсё бліжэй. Алёша падаў знак падрыхтавацца. Як стукае сэрца! Набліжаецца рашучая хвіліна. Па чарзе аблілі пакулле бензінам. Алёша абліваў апошні. Потым ён узняўся, лінуў рэшткі бензіну на высахлую траву недалёка ад танка.

— Падрыхтавацца,—паціху скамандаваў Алёша.

Але тут раптам на дарозе загрукатаў грузавік. Два танкісты вышлі з нерухомага танка і накіраваліся да машыны. Гаручае прывезлі. Эх, гады!

Алёша падаў знак. Успыхнула пакулле, і пылаючыя бутэлькі паляцелі ў танк. Загарэлася трава, якую Алёша раней абліў бензінам. Воблака чорнага дыму ўзвілося над лесам, забушавала полымя. Кінуўшы яшчэ бутэльку ў грузавік, Алёша пабег следам за сябрамі.

Ззаду чутны стрэлы, нехта крычыць... Ух, як грымнула! Выбух, напэўна. Хлопцы беглі не азіраючыся. Спыніліся яны толькі на ўзгорку, як і дамовіліся. Пазней за ўсіх прыбег Алёша Найдзёнак. Ён усміхаўся, цяжка дыхаючы.

— На «выдатна»!—радасна сказаў ён.

На месцы іх сустрэчы з ворагам бушаваў лясны пажар.

*1941 г.*

# ЗМЕСТ

*На белорусском языке*

***Якуб Колас***

**Утро жизни**

Государственное издательство БССР
Минск 1950



*Рэдактар А. Якімовіч.*
*Мастацкі рэдактар М. Гуціеў*
*Тэхнічны рэдактар Я. Карпіновіч.*
*Карэктар М. Пацеенка*

---

АТ 02091. Падпісана да друку 13/III-50 г.
Тыраж 20000 экз. Папера 60×84/16.
Друк. арк. 7½. Заказ № 544.

---

Друкарня імені Сталіна.
Мінск, Пушкіна, 55.



